# Голас Радзімы

№ 42 (2080)
20 кастрычніка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







## ГОРДАСЦЬ РЫГОРА АПЛЕВІЧА

У тую восень, калі Рыгор Аплевіч праз сорак пяць гадоў прыехаў у госці ў свае Рыдзялі, такіх Верцялішак, як на гэтых здымках, ён не ўбачыў. Не было яшчэ вуліцы Леніна, цэнтральнай у пасёлку, што нібы нанізала цэлы ланцужок дамоў, прыгожых па архітэктурнаму выгляду, жыць у якіх — адна любата. Не было і гэтага мемарыяла, які называецца «Манумент маці-Радзімы»— ён быў адкрыты толькі ў 1981 годзе. Ды ці мала чаго тады не было ў Верцялішках. То ж быў толькі 1972 год — самы шчаслівы з усяго доўгага жыцця Рыгора Аплевіча, але слава Верцялішак тады яшчэ была наперадзе. Пра многае адно марылі яго землякі, а пра многае, сёння такое звычнае, нават і ўяўлення не мелі. Ну, напрыклад, пра такі сучасны комплекс у Борках, непадалёку ад Рыдзялёў, дзе адкормліваюцца 6 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы. Пра Палац культуры і водны басейн.

Цячэ-сплывае час, мяняюцца людзі, іншымі становяцца ўмовы іх жыцця, адметнай — гама сацыяльнага фону. Рыгор Аплевіч памятае, як рос у курнай сялянскай хаце, рыхтаваў урокі пры лучыне, харчаваўся бульбай з капустай, зімой туліўся побач з курамі і цялём, якіх трымалі дома, каб не памерзлі ў хляве. Таму для яго, нягледзячы на тое, што шэсцьдзесят гадоў пражыў у Канадзе і ведае, што такое дастатак і ўладкаванасць, сённяшняе сацыяльнае становішча беларускага селяніна — зямны рай, чароўная казка. А для сучаснага пакалення жыхароў Верцялішак, якое можа толькі ў школе чытала пра курную хату ці ў калгасным музеі бачыла яе малюнак і нават не ўяўляе сабе, як гэта можна мясціцца пад адным дахам са свойскай жывёлай, гэтая казка не выклікае захаплення. Проста такое сёння жыццё. Добрае, але нам хочацца лепшага.

Вядома, Верцялішкі знаюць сабе цану — адна з вядучых гаспадарак у Беларусі, адзін з лепшых пасёлкаў у краіне, дзе хораша спалучаюцца гарадскі камфорт з навакольным асяроддзем. Нездарма ж Верцялішкі за планіроўку і будаўніцтва ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР у галіне архітэктуры. Новыя Верцялішкі — пасёлак, які ўвабраў у сябе 13 дробных нядобраўпарадкаваных вёсак і 80 хутароў і налічвае сёння 2 тысячы жыхароў, выраслі побач са старой вёскай. Яна толькі падкрэслівае сацыяльны і культурны ўзровень славутага на ўсю краіну калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна, які часта атаясамліваюць з Верцялішкамі, хаця тыя — толькі цэнтр калгаса.

НА ЗДЫМКАХ: цэнтр калгаса «Прагрэс» — пасёлак Верцялішкі; манумент маці-Радзімы; комплекс у Борках пад Рыдзялямі.

(Заканчэнне фотарэпартажу на стар. 3).

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## АДМОВІЦЦА АД СТЭРЭАТЫПАЎ

У агульнай дыскусіі на 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН выступіў міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч. Сярод важнейшых праблем, на якіх спыніўся міністр, была і самая галоўная: як прадухіліць вайну, спыніць гонку ўзбраенняў і рашуча перайсці да раззбраення.

Сістэматычныя намаганні ў гэтым напрамку робяцца ўжо некалькі дзесяткаў гадоў. Аднак вастрыня праблемы на працягу гэтага перыяду не прытуплялася, а мела тэндэнцыю да нарастання. Значыць, мы павінны рэалістычна прызнаць, што традыцыйны, закаранелы, кансерватыўны спосаб мыслення і ваенна-стратэгічных падыходаў не ў стане справіцца з вырашэннем гэтай задачы. Сапраўды, ці можа, ці мае права міжнароднае супольніцтва, пры наяўнасці экзатычных і надзвычай разбуральных відаў зброі канца XX стагоддзя, захоўваць спосаб мыслення XIX стагоддзя? Ці можа супольніцтва дзяржаў і далей мірыцца з тым, што развіццё тэхналогіі апярэджвае развіццё палітыка-стратэгічнага мыслення? Не, не можа.

Патрэбен новы, рэалістычны падыход, які вынікае з разумення асаблівасцей становішча, у якое чалавецтва пастаўлена паяўленнем і нарошчваннем ядзернай зброі і іншых відаў зброі масавага знішчэння. Савецка-амерыканскі Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці — гэта першы і таму асабліва важны парастак такога разумення. Але каб сабраць ураджай трывалай бяспекі, забяспечыць незваротнасць раззбраення, аднаго парастка недастаткова. Неабходны сур'ёзны, радыкальны рух наперад да далейшых мэт — 50-працэнтнага скарачэння стратэгічных наступальных узбраенняў СССР і ЗША пры строгім выкананні Дагавора па ПРА ў тым выглядзе, як ён быў падпісаны ў 1972 годзе, і нявыхадзе з яго на працягу ўзгодненага перыяду часу, да ўсеабдымнай забароны выпрабаванняў ядзернай зброі, да ліквідацыі хімічнай і іншых відаў зброі масавага знішчэння ў глабальным маштабе, да прадухілення стварэння новых, яшчэ больш разбуральных узбраенняў, а ў перспектыве — поўнага і ўсеагульнага ядзернага раззбраення, радыкальнага скарачэння звычайных узбраенняў і выкарыстання касмічнай прасторы толькі ў мірных мэтах.

Ясна, што паўмеры дадуць у лепшым выпадку паўбяспеку. Яна не задавальняе народы. А пераход да распрацоўкі далейшых глыбокіх мер на гэтым напрамку скоўваецца прыхільнасцю часткі ядзерных дзяржаў да абстрактнага парадокса, па якому залогам жыцця з'яўляюцца нібыта запасы ядзернай смерці. Цаной доўгай праверкі дзеяння гэтага парадокса можа стаць усё жыццё на блакітнай планеце Сонечнай сістэмы. Не дапушчальна ставіць на чалавецтве такі эксперымент, тым больш насуперак яго волі.

Савецкі Саюз ужо заявіў аб гатоўнасці адмовіцца ад статуса ядзернай дзяржавы ў агульначалавечых інтарэсах. Адмова ад старых стэрэатыпаў дала б і іншым ядзерным дзяржавам магчымасць заняць гэту дастойную пазіцыю. Новае мысленне падказвае прынцыповы шлях і да дасягнення бяспекі ў галіне звычайных узбраенняў і ўзброеных сіл: ліквідацыя дысбалансаў і асіметрый, дасягненне роўных, радыкальна паніжаных узроўняў і ўстанаўленне строга абарончай структуры ўзброеных сіл. Аб тым, што такое абарончая структура і выключна абарончы характар ваенных дактрын, трэба і можна дамовіцца на шматбаковым узроўні, напрыклад, з удзелам Савета Бяспекі ААН і яго ваенна-штабнога камітэта, і БССР актыўна выступае за гэта.

БЕЛАРУСЬ У ААН

## ВЕЧАР У КЛУБЕ РУСКАЙ КНІГІ

Дэлегацыя БССР на 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН правяла ў Клубе рускай кнігі пры ААН вечар, прысвечаны Беларускай ССР, на якім прысутнічалі дыпламаты, супрацоўнікі Сакратарыята ААН і прадстаўнікі амерыканскай грамадскасці.

Перад прысутнымі з расказам аб Беларускай ССР напярэдадні 70-годдзя рэспублікі і Кампартыі Беларусі выступіў член дэлегацыі БССР на 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН Ф. Алейнік.

Гасцям былі паказаны кінафільмы: дакументальны аб БССР і мастацкі кінастудыі «Беларусьфільм». Прысутныя праявілі таксама вялікую цікавасць да фота- і кніжнай выстаўкі, да прапанаванай ім літаратуры аб рэспубліцы на англійскай мове.

ПАМЯЦЬ АБ ГЕРОІ

## КВЕТКІ НЯМЕЦКАМУ АНТЫФАШЫСТУ

З выпадку 39-й гадавіны ўтварэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда ўсклаў кветкі да мемарыяльнай дошкі нямецкаму антыфашысту Герою Савецкага Саюза Фрыцу Шменкелю.

У цырымоніі ўдзельнічалі супрацоўнікі Генеральнага консульства, грамадзяне ГДР, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах Мінска, турысты з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

ДАР МАСТАКА

## У ФОНД КУЛЬТУРЫ

Не ў музейныя запаснікі і не ў майстэрню мастака вернуцца з юбілейнай выстаўкі Леаніда Шчамялёва яго палотны «Партызанскі лес», «Апоўдзень. Статак» і «Дукоршчына». Гэтыя работы вядомы майстар першым з беларускіх жывапісцаў падарыў Фонду культуры. Убачыць іх змогуць аматары выяўленчага мастацтва ў розных кутках рэспублікі.

Графічныя лісты Міколы Купавы, творы латышскага мастака Валерыя Дзевісківы, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму, аўтары таксама вырашылі перадаць фонду. Паступленні ўзбагацяць музеі, ствараемыя карцінныя галерэі і выставачныя залы, Палацы і Дамы культуры прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў. Першая выстаўка падарункаў адкрыецца ва Усесаюзны дзень Фонду культуры — 12 лістапада. Беларускі фонд культуры запрасіў жывапісцаў, скульптараў, графікаў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва стаць удзельнікамі дабрачыннай экспазіцыі.

ПОЛЕ — МАГАЗІН

## СТВОРАНА АГРАФІРМА

Адразу чатырнаццаць гароднінных магазінаў Савецкага раёна Мінска сталі фірменнымі. Прадукцыю сюды пастаўляе цяпер новая аграфірма саўгаса «Азёрны», якая створана для забеспячэння гараджан якаснай гароднінай і фруктамі. Разам з традыцыйнымі буракамі, бульбай, кабачкамі і морквай на прылаўках ужо з'явіліся ягады шыпшыны, чарнаплоднай рабіны, абляпіхі.

Свежая, якасная гародніна павінна быць у магазінах круглы год — так лічаць у «Азёрным». Таму тут арганізавалі работу па прынцыпу поле — магазін. Непасрэдна з градкі паступае на прылаўкі пятрушка, кроп, сельдэрэй. У цяпліцах гаспадаркі спеюць памідоры. Да канца года іх будзе рэалізавана 900 тон. Неўзабаве з'явяцца і агуркі.

ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ

## КРОХКІ КАМЕНЬ

Статус помнікаў прыроды атрымалі тры валуны, якія ўзвышаюцца сярод палёў Ушацкага раёна.

Здаецца, час не ўладны над каменнымі гігантамі, кожны з якіх важыць больш за 20 тон і мае ў дыяметры да трох з палавінай метраў. Толькі ледзь прыкметнымі трэшчынамі ды выбоінамі дакрануліся да іх праляцеўшыя тысячагоддзі. Але лёс камянёў выклікае сёння трывогу. Хлебаробы стараюцца прыбраць унікальныя валуны з палёў, каб не перашкаджалі араць-сеяць, дарожнікі не супраць раздрабіць іх у шчэбень.

Між тым гэтыя «аўтографы» ледавіковага перыяду захоўваюць у сабе каштоўную інфармацыю аб мінуўшчыне нашай зямлі. З яе дапамогай вучоныя знаходзяць залежы карысных выкапняў, вывучаюць геалагічныя працэсы. Ды і палі нашы без камянёў-гігантаў стануць, можа быць, і больш зручнымі для гаспадарання, але назаўсёды страцяць часцінку сваёй непаўторнай прыгажосці.

Вось чаму ўслед за тысячагадовымі дрэвамі, рэліктавымі гаямі, празрыстымі крыніцамі шыльдачкі з надпісамі «Помнік прыроды. Ахоўваецца дзяржавай» сталі з'яўляцца на валунах. Каменных веліканаў у палях і лясах Беларусі засталося некалькі соцень, і ўсе яны маюць патрэбу ў ахове.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## ПРАДУКЦЫЯ «ЗЕНІТА»

Самую мініяцюрную з выпускаемых у краіне поўнафарматных дальнамерных фотакамер пачалі выпрабляць на заводзе «Зеніт» у Вілейцы. Яе вага ўсяго 270 грамаў. Новы апарат амаль удвая лягчэйшы, чым папярэдні рэкардсмен — «ФЭД, мікрон-2». Першую партыю «Элікона», так назвалі навінку, адправілі для продажу ў фірменныя магазіны прадпрыемства.

Гэта камера разлічана перш за ўсё на фотааматараў. Але думаецца, яна зацікавіць і прафесіяналаў. З дапамогай «Элікона» на здымку можна перадаваць нават самыя дробныя дэталі. Дыяпазон вытрымак вагаецца ад пятнаццаці да адной пяцісотай секунды, святласіла аб'ектыва ад 2,8 да 22 адзінак.

ДА НАШАГА СТАЛА

## ПАЧАЛАСЯ ПУЦІНА

Багатымі ўловамі пачалася пуціна ў буйнейшай рыбнай гаспадарцы Палесся «Белае» ў Жыткавіцкім раёне. Сёлета тут выгадоўвалі рыбу па доследнай тэхналогіі. У выніку яе збор з кожнага гектара амаль удвая большы, чым у іншых гаспадарках вобласці.

Першыя тоны прадукцыі адпраўлены ў магазіны Масквы і Мінска, на мясцовы прылавак. За сёлетнюю пуціну рыбаводы Гомельшчыны плануюць прадаць каля чатырох з палавінай тысяч тон рыбы. Амаль палавіну яе дабудуць у «Белым».

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. Першы фестываль творчай моладзі прайшоў у вытворчым аб'яднанні «Інтэграл» у Мінску.

Добра ведаючы свой прафесіянальны патэнцыял, у працоўных калектывах часта не здагадваюцца аб рознабаковых мастацкіх талентах маладых інжынераў і рабочых. Выявіць таленты — менавіта такую мэту і паставілі арганізатары фестывалю, якія прапанавалі моладзі ўдзельнічаць у конкурсах жартоўнай песні, фальклорным і іншых. Асаблівай папулярнасцю карысталіся сатырычныя тэатральныя мініяцюры «Не выпускай з-пад увагі», у якіх маладыя работнікі аб'яднання крытыкавалі недахопы на вытворчасці і ў сваім жыцці.

ВАЎКАВЫСК. Уладальнікамі ўласнага Дома быту сталі рабочыя і служачыя вытворчага аб'яднання «Ваўкавыскцэментнашыфер». Будынак, у якім цяпер заканчваецца ўстаноўка абсталявання, узведзены сіламі і на сродкі прадпрыемства. Тут размесцяцца швейнае атэлье, хімчыстка, тэлевізійная і гадзіннікавая майстэрні, цырульня, пункт пракату, многія іншыя службы.

КАРЭЛІЧЫ. Прыродны газ падведзены ў вёску Аюцэвічы. Блакітны агеньчык пліт вось-вось запаліцца ў кватэрах, дзе жывуць звыш сарака сямей паляводаў, механізатараў, спецыялістаў мясцовага калгаса «Савецкая Беларусь». На танным паліве будзе працаваць таксама кацельня, якая будуецца ў гаспадарцы. Яна забяспечыць цяплом жылыя дамы, прадпрыемствы гандлю і быту, адміністрацыйныя будынкі. У наступным годзе тут пачнуць выкарыстоўваць газ і для вытворчых патрэб, працягнецца газіфікацыя іншых мясцовых населеных пунктаў.

ДРУК

## ГЭТА ЦІКАВІЦЬ ЧЫТАЧА

**Калі прааналізаваць змест сённяшніх беларускіх газет, можна заўважыць, што сярод вялікай колькасці цікавых і разнастайных матэрыялаў усё ж такі выдзяляюцца некалькі плыняў. Сёння мы назавём дзве з іх.**

Па-першае, ход эканамічнай рэформы ў прамысловасці і асабліва ў сельскай гаспадарцы, дзе разгортваецца работа па ўкараненню арэндных форм арганізацыі працы. Па-другое, ужо працяглы час не губляе сваёй вастрыні і актуальнасці грамадска-палітычная, гістарычная тэматыка. Напрыклад, у беларускамоўнай газеце «Звязда» пад рубрыкай «Гісторыя без белых плям» ужо змешчана нямала цікавых артыкулаў, у якіх вядзецца гаворка, а часам і вострая паленіка пра гісторыю Беларусі, станаўленне яе дзяржаўнасці і ў сувязі з гэтым расказваецца аб месцы і ролі асобных вядомых беларускіх палітычных, культурных дзеячаў. Былі надрукаваны гутаркі з вучонымі-гісторыкамі, пісьменнікамі, сведкамі падзей, што адбываліся ў рэспубліцы ў 30-я — 40-я гады.

Адна з апошніх публікацый называецца «У партыі аднавіць». Як ацэньваецца сёння віна перад партыяй тых ахвяр сталінскіх рэпрэсій, хто ўжо рэабілітаваны судом? Хто і дзе пераглядае персанальныя справы рэпрэсіраваных камуністаў? Якую ролю адыгрывае гэта няпростая работа ў абнаўленні грамадскага жыцця, ва ўсталяванні гістарычнай праўды і справядлівасці? На такія пытанні адказвае ў артыкуле В. Галаван, кіраўнік спецыяльна створанай у чэрвені Камісіі Бюро ЦК КПБ па дадатковаму вывучэнню матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, якія мелі месца ў перыяд культу асобы Сталіна.

Значная ўвага ў названым інтэрв'ю ўдзелена лёсу Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага). Камісія азнаёмілася з мноствам матэрыялаў, і былі зроблены вывады, на аснове якіх вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч, старшыня першага часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, акадэмік АН БССР, пісьменнік атрымаў партыйна-палітычную рэабілітацыю і адноўлены ў партыі з кастрычніка 1918 года. Камітэт партыйнага кантролю пры ЦК КПСС зацвердзіў адпаведную пастанову.

У артыкуле падкрэслена, што прыгаданы прыклад з лёсам З. Жылуновіча — не выключэнне. Права на падобную рэабілітацыю маюць усе незаконна рэпрэсіраваныя асобы, незалежна ад сацыяльнага становішча, жывыя і мёртвыя, зразумела, пасля вывучэння адпаведных матэрыялаў і дакументаў.

Лёс перабудовы ў народнай гаспадарцы — пастаянная тэма вялікіх, аналітычных публікацый на старонках беларускіх газет. У адным з такіх матэрыялаў — «Вяртанне гаспадара», надрукаваным у «Звяздзе», старшыня калгаса імя Свярдлова Горацкага раёна на Магілёўшчыне А. Герасімаў кажа: «Яшчэ нядаўна многія калгаснікі пыталі, калі перабудова прыйдзе да нас. Зараз ніхто такіх пытанняў не задае. У перабудову ўключыўся ўвесь наш калектыў». Сапраўды так. У калгасе пачалі дзейнічаць у рамках існуючай гаспадаркі першыя ў рэспубліцы буйныя сельскія кааператывы. Калгаснікі сталі поўнымі і сапраўднымі гаспадарамі на зямлі, якая разам з усімі асноўнымі фондамі перададзена ім у арэнду. Газета расказала падрабязна пра сутнасць горацкай мадэлі кааператываў, пра барацьбу наватараў за хутчэйшую перабудову механізма гаспадарання. Дарэчы, пасля публікацый у «Звяздзе» ў калгас імя Свярдлова сталі прыязджаць калегі-аграрнікі з іншых месцаў і нават з іншых саюзных рэспублік, куды трапіў нумар газеты.

## ЯКОЕ ЖЫЦЦЁ Ў ВЕРЦЯЛІШКАХ

# ГОРДАСЦЬ РЫГОРА АПЛЕВІЧА



Спрачаюся на што хочаце, але, відаць, няма другога такога чалавека ні ў нас, ні там — за мяжой, як Рыгор Аплевіч, каму так быў бы мілы гэты куток зямлі і хто б так ганарыўся Верцялішкамі, як ён. А любасць гэтая і гордасць маюць свой пачатак. Роўна трыццаць гадоў назад напісаў Рыгор Аплевіч ліст у рэдакцыю і папрасіў: ці нельга даведацца што пра яго родную вёску Рыдзялі, адкуль ён у 1927 годзе выехаў у Канаду. Рэдакцыя выканала яго просьбу, і ў газеце быў надрукаваны рэпартаж «Дарога да Табалы». У ім расказвалася пра мясціны, дзе прайшлі дзяцінства і маладосць нашага земляка, пра яго сваякоў і сяброў. Было там і пра Рыдзялі, і пра Верцялішкі, якія ўжо тады вызначаліся высокім узроўнем развіцця эканомікі, перадавымі метадамі вядзення гаспадаркі, дабрабытам сялян. У самой вёсцы ўжо бачны былі тыя рысы ў архітэктуры, якія ўласцівы пасёлку сёння.

Вядома, тую двухкласную прыходскую школу, якую скончыў якраз напярэдадні першай сусветнай вайны Рыгор Аплевіч, з сярэдняй агульнаадукацыйнай, куды цяпер ходзяць



дзеці з Верцялішак і навакольных вёсак, не параўнаеш ні па знешняму выгляду, ні па абсталяванню кабінетаў, ні тым больш па ўзроўню ведаў. Але і самыя смелыя мары не прадракалі нікому з яго пакалення, што ў Верцялішках будзе і музычная школа, і школа мастацтваў. Што для яго нашчадкаў будзе такім жа натуральным урок малявання ці ігры на фартэпіяна, як для сялянскага хлапчука Рыгора Аплевіча азбука ці закон божы.

Рыгор Аплевіч быў узрушаны тым, што прачытаў пра Верцялішкі. Яму верылася і не верылася. Ён павінен быў убачыць сам тое новае жыццё, тых шчаслівых людзей, якім цяпер не трэба ламаць галаву, як падзяліць 3 дзесяціны зямлі на чатырох сыноў. І ён прыехаў у Рыдзялі да Міхаіла Аплевіча, сына свайго старэйшага брата. Вось тады і ўбачыў на свае вочы новыя Верцялішкі, куды хадзіў некалі ў школу. Убачыў і анямеў ад здзіўлення. Так гэта было непадобна на той вобраз, які ён захоўваў у памяці. Яго апанавалі два пачуцці — гордасць і крыўда. Рыгор Аплевіч ганарыўся тым, як жывуць сёння сяляне ў Верцялішках, Табале, Рыдзялях, што ўваходзяць у адзін калгас — «Прагрэс». І тут жа пеканула думка: чаму ж мне не давялося пажыць у такі час на сваёй зямлі? Успомнілася, як яму тут, у Верцялішках, уручылі пасведчанне аб сканчэнні той двухкласнай школы. Яно захавалася, і, гледзячы на сённяшнюю бесклапотную дзятву, дзе ніхто не вызначаецца ні па вопратцы, ні па сацыяльнай прыналежнасці, будзь ты сынам пастуха, настаўніка ці інжынера, успомніліся радкі, запісаныя ў яго пасведчанні: «Предъявитель сего Григорий Осипов Аплевич; крестьянин...» Яго заўсёды пякло гэтае слова «крестьянин», бо яно азначала, што з такім дакументам ты не пойдзеш далей плуга і бараны.

Рыгор Аплевіч заходзіў у хаты сяброў сваёй маладосці, суседзяў, радні. Прыглядаўся, як яны жывуць, што маюць, ці задаволены парадкамі ў калгасе. Калі вяруўся ў Канаду, напісаў нам пісьмо, у якім пералічыў усё, чым багаты яго землякі: і асушаныя балоты, і электрычнасць у Рыдзялях і іншых вёсках, халадзільнікі і тэлевізары... Гэта ўсё былі дэталі новага жыцця, іншага сялянскага побыту, якога не ведаў Рыгор Аплевіч. Не, ён ведаў і бачыў, і нават меў сам і такое, і нешта лепшае. Але ж гэта — у Канадзе А каб тут, у бедных, згалелых Рыдзялях ці Верцялішках...

Раздумваючы пра ўсё, Рыгор Аплевіч закончыў сваё пісьмо так: «Я рады, што мой народ цяпер жыве добра і не ведае той беднасці, галечы, якія я перажыў». І нібы сімвалам новага жыцця на Радзіме для яго сталі Верцялішкі.

З той пары амаль у кожным пісьме: што новага ў маіх Верцялішках? А вось гэтыя радкі з апошняга ліста прымусілі нас адказаць Рыгору Аплевічу праз газету. «Я хацеў бы дазнацца, што новага на маёй Радзіме, якое жыццё людзей... Я ж пражыў там першых 17 гадоў пры царскай Расіі і 10 — пры польскай акупацыі. 27 гадоў — гэта немалы кавалак людскога жыцця, іх нельга забыць. І які бы цяжкім ні было тое жыццё, а мяне цягне нейкае прыроднае цягаценне — любоў да сваёй Радзімы, да свайго народа. Мяне цешыць, што мой народ жыве цяпер свабодна... З газеты «Голас Радзімы» я бачу, што калгас «Прагрэс» ужо мільянер, гэта цудоўна. Як жа змянілася жыццё!»

Мы рашылі прайсціся па месцах, дарагіх нашаму земляку, і заадно расказаць, «якое жыццё людзей». Прызнацца, мы не знайшлі ў ім нічога такога, што магло б уразіць. Яно такое, як і павінна быць: з даволі высокім эканамічным і сацыяльным узроўнем, з незадаволенасцю людзей тым, чаго яны дасягнулі, з імкненнем выкарыстаць усё, што дае перабудова, каб дасканала весці сваю гаспадарку, даць людзям тое, чаго яны яшчэ не маюць. Але што ж усё-такі сёння адметнае ў Верцялішках? На гэта можа нам адкажа кніжка «Крокі «Прагрэса», выдадзеная ўсяго год назад, так што факты ў ёй яшчэ свежыя. А напісаў яе Аляксандр Дубко — старшыня калгаса «Прагрэс», Герой Сацыялістычнай Працы. Дарэчы, ён з'яўляецца членам савета Беларускага таварыства «Радзіма». Як яго прадстаўнік два гады назад наведаў Канаду, сустракаўся з нашымі суайчыннікамі. У прадмове да сваёй кніжкі А. Дубко піша: «На сацыяльна-эканамічнае развіццё гаспадаркі штогод выдзяляецца больш 800 тысяч рублёў...У калгасе пабудаваны тры д ыя сады на 350 месцаў, д Дамы культуры, два сельскія клубы, пяць бібліятэк, лазне-пральны камбінат, пракладзены дзесяткі кіламетраў дарог з цвёрдым пакрыццём».

Мн нацца спыніць увагу на д рогах. Мой рэпартаж трыццацігадовай даўнасці нездарма называўся «Дарога да Табалы». Тады гэта была, можна сказаць, і экзотыка цывілізацыі ў заходнебеларускай вёсцы, і сімвал будучыні: першы, асфальтаваны адрэзак дарогі паміж Верцялішкамі і Табалой. Той самай, гразкай і разбітай, па якой Рыгор Аплевіч некалі ў лапцях у школу хадзіў.

І вось я чытаю, што піша сёння Аляксандр Дубко: «Усе населеныя пункты калгаса злучаны з цэнтральнай сядзібай дарогамі з цвёрдым пакрыццём. Пляцоўкі вакол комплексаў і ферм, вытворчых цэхаў, а таксама пад'езды да іх заасфальтаваны. Поўнасцю завершана газіфікацыя вёсак. У Верцялішках у кожнай чацвёртай кватэры ўстаноўлены тэлефон».

Добрая дарога, уладкаваны быт селяніна, нават тэлефон у яго кватэры — гэта ўжо такія звычныя прыкметы сённяшніх вёсак калгаса «Прагрэс». Праўда, у Рыдзялях тэлефона пакуль няма. Але ж Рыдзялі заўсёды жылі ў ценю славы Верцялішак. На тое ён і цэнтр, каб ва ўсім быць на крок уперад, падцягваць да свайго ўзроўню астатніх, вызначацца нечым адметным. Рыдзялі не крыўдуюць на гэта, бо ў іх, хаця і няма такой перспектывы развіцця, як у Верцялішак, але ёсць таксама свая адметнасць. Тут няма катэджаў, пабудаваных па самых сучасных праектах, але ёсць традыцыйныя беларускія хаты, моцныя вугламі і багатыя пірагамі. Тут жывуць амаль што ўсе сваякі Рыгора Аплевіча. Жывуць у новым часе, з новымі турботамі і памкненнямі, новымі радасцямі і журботамі.

А Верцялішкі ўжо нацэлены ў заўтрашні дзень. Толькі адчыніліся дзверы новага універсальнага магазіна, пачалі думаць пра будаўніцтва свайго прафілакторыя. Свайго, для тых, хто працуе ў «Прагрэсе»! Каб людзі мелі дзе і падлячыцца, і адпачыць. Патрэбны новыя прадпрыемствы сельскага сервісу, новыя кватэры, забяспечаныя ўсімі зручнасцямі, новыя месцы ў дзіцячых садах...

Ці хопіць «Прагрэсу» тых 600 тысяч рублёў, якія ён выдзяляе штогод на сацыяльна-культурнае будаўніцтва? Але гэта для Верцялішак не праблема: гаспадарка можа дазволіць сабе многае.

Жыццё ў Верцялішках не стаіць на месцы. Час уплятае ў яго свае, толькі яму ўласцівыя прыкметы.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**





**НА ЗДЫМКАХ: і па сёння захаваўся будынак Верцялішскай прыходскай школы, два класы якой скончыў Рыгор Аплевіч; Рыдзялі таксама маюць сваю адметнасць; сваякі Рыгора Аплевіча — (злева направа) САВАСЦЬЯН Аляксандр Антонавіч, АПЛЕВІЧ Міхаіл Аляксеевіч, АПЛЕВІЧ Валянціна Іосіфаўна, АПЛЕВІЧ Любоў Аляксандраўна, АПЛЕВІЧ Сяргей Фёдаравіч, АПЛЕВІЧ Канстанцін Фёдаравіч; Лявонцій САВАСЦЬЯН з трэцяга пакалення Аплевічаў. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут і цяпер працуе начальнікам тэхнічнага аддзела ў Гродзенскім вытворчым лесагаспадарчым аб'яднанні.**

Фота С. КРЫЦКАГА.

*У МІНСКУ ЗАКОНЧЫЛІ РАБОТУ КУРСЫ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ*

# ПЕСНЯ ДАЕ НАДЗЕЮ І ВЕРУ





У канцы верасня закончылі работу курсы для кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці з-за мяжы, арганізаваныя Міністэрствам культуры БССР і Беларускім таварыствам «Радзіма». Гэта штогадовае мерапрыемства стала ўжо традыцыйным у планах Таварыства. На курсы прыязджаюць землякі з розных краін. Сёлета, як і не раз бывала, у Беларусі стажыраваліся аматары спеваў і танцаў з Аўстрыі, Бельгіі, са славутай галандскай «Калінкі». А вось беларусы з Польскай Народнай Рэспублікі вучыліся на курсах упершыню. Мы пісалі ўжо, што ў апошні час Беларускае таварыства «Радзіма», рэдакцыя газеты «Голас Радзімы» актывізавалі работу з беларусамі, якія пражываюць у Польшчы. Імі там створаны калектывы мастацкай самадзейнасці — дарослыя і дзіцячыя, харавыя і танцавальныя, дзе ведаюць і шануюць беларускае слова, песню, беларускі народны танец. Кіруюць калектывамі часцей за ўсё аматары, людзі, адданыя беларускай культуры, але якім часам не хапае прафесійнай падрыхтоўкі (дарэчы, як і ў іншых краінах, дзе жывуць нашы землякі). Менавіта на іх і разлічаны курсы. Заняткі, як заўсёды, праходзілі ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. Валянціна Кітаева, Ларыса Шымановіч, якія не адзін год працуюць з нашымі курсантамі, набылі багаты вопыт работы. Свае заняткі яны праводзяць з такой цярплівасцю, любоўю, зацікаўленасцю, веданнем справы, што паміж выкладчыкамі і навучэнцамі хутка наладжваецца кантакт, поўнае ўзаемаразуменне.





Галандзец Ян ван дэр Хоогт вывучае фальклор. Цікавіць яго народная творчасць рускіх, беларусаў, украінцаў. Адным з любімых яго інструментаў з'яўляецца балалайка. І за час знаходжання ў нас ён зрабіў значныя [illegible]ехі ў авалоданні гэтым [illegible]одным інструментам. А дапамагаў яму, займаўся з ім вядомы музыкант, балалаечнік, прафесар Мікалай Прашко.

— Не ўсё было проста ў нашым дуэце, — расказвае, усміхаючыся, Мікалай Прашко. — Найбольшая перашкода — узаемнае няведанне моў — галандскай і рускай. Але мы дагаварваліся адразу на трох іншых — нямецкай, італьянскай і музычнай. Было б жаданне і неабходнасць зразумець адзін аднаго, а моўны бар'ер не перашкода.

Луі Лаурайсенс таксама галандзец, але ўжо многа гадоў удзельнічае ў ансамблі «Калінка», у рэпертуары якога рускія, беларускія, украінскія танцы. Выступленні гэтага калектыву папулярныя ў Галандыі, Луі любіць музыку. «Розную музыку люблю, —гаворыць ён.— Добры рок люблю, але для душы самая прыемная руская народная музыка. А цяпер, пасля паездкі ў Мінск, палюбіў і беларускую».

У апошні дзень работы курсаў, як заўсёды, адбыўся невялікі канцэрт, і курсанты паказалі ўсё, чаму навучыліся ў Мінску. Вельмі ўрачыста прайшло ўручэнне пасведчанняў. Але, здаецца мне, сапраўдны экзамен курсанты трымалі на сяброўскім вечары. На яго былі запрошаны спявакі опернага тэатра Ніна Казлова і Віктар Стральчэня. Яны пакарылі слухачоў сваімі цудоўнымі галасамі, выдатным выкананнем беларускіх, рускіх, украінскіх песень, але не адставалі ад іх і выпускнікі курсаў. Госці з Польшчы задушэўна, з вялікім пачуццём запелі «Люблю наш край».

— Гэта народная песня —наш гімн, — сказаў Мікалай Бушка.— У нас яе ведаюць і спяваюць усе беларусы.

На жаль (а можа так яно і павінна было здарыцца з песняй, што выйшла з глыбіні народа), амаль ніхто не ўспамінае там аўтара песні, беларускую паэтэсу Канстанцыю Буйло.

Музычна - харэаграфічная карцінка «Дударыкі» (песня напісана кампазітарам Ігарам Лучанком паводле народных матываў), якую вывучылі тут, спадабалася ўсім, і танцавалі яе ўсёй групай, хоць па ўзросту ў яе ўваходзілі людзі вельмі розныя.

— Мне хацелася б адзначыць, — сказала Валянціна Кітаева,—што сёлета група была надзвычай актыўная. Звычайна нашы курсанты дзеляцца на тых, хто спявае, і на тых, хто танцуе. Тут спявалі ўсе, і танцавалі ўсе. З вялікай ахвотай хадзілі на заняткі.

Асабліва старанымі былі нашы сябры з Польшчы. Галя Мартынюк і Валя Міцэвіч стараліся не страціць дарэмна ніводнай хвіліны. Нават перапынкі паміж лекцыямі здаваліся ім непатрэбнымі.

— Нам так не хапае ведаў у нашай рабоце. Курсы кар[illegible]сныя для нас. Тольк[illegible] рузка магла б быць я[illegible] і большай,— гаварылі яны.

Пасля заняткаў, якія заканчваліся ў першай палове дня, і пасля кароткага адпачынку курсанты наведв[illegible] розныя мастацкія кал[illegible]ывы беларускай сталіцы. Яны былі ў дзіцячым ансамблі «Равеснік» і ў дзіцячай студыі пры ансамблі «Харошкі». Слухалі рэпетыцыі, якія праводзіў са сваім хорам прафесар Віктар Роўда. Былі ў Дзяржаўным беларускім хоры, якім кіруе М. Дрынеўскі, і ў некаторых іншых калектывах.

А яшчэ ж нам хацелася паказаць гасцям Мінск, яго наваколле, славутыя мясціны, звязаныя з гісторыяй і культурай народа...

Большую ці меншую, але несумненна, што курсы прынеслі карысць усім. Вольга Шчарбачэнка радавалася, што навучылася разбірацца ў нотах, правільна дыхаць, спяваючы. Магдаліна Шахназарава і Марыя Якаўлева з задавальненнем гаварылі, што ў льежскай групе запяюць «Малінавы звон», песню, якую жанчыны тут вывучылі.

У нашых курсантаў з'явілася ў Мінску і, мусіць, застанецца назаўсёды многа новых сяброў, якія дадуць прафесійную параду, прышлюць ноты новай песні ці касцюм для ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці. А самае галоўнае—у сумную хвіліну сагрэе душу ласкавая мелодыя Бацькаўшчыны.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час заняткаў у аўдыторыях Ян ван дэр ХООГТ з прафесарам Мікалаем ПРАШКО і госця з Польшчы Валянціна МІЦЭВІЧ; на мемарыяльным комплексе «Хатынь» і ў час экскурсіі па Мінску.**

---

ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

## ГІСТАРЫЧНА НЕАБХОДНЫЯ РЭФОРМЫ

Нядаўна атрымаў пісьмо ад аўстралійскага сябра, які піша, што М. С. Гарбачоў «перавярнуў усё дагары нагамі». Зусім згодны з ім: добра, што перавярнуў. Даўно трэба было гэта зрабіць.

Савецкі народ цалкам адобрыў гістарычна неабходныя рэформы, якія нясе з сабой перабудова. Знайшліся ў краіне людзі, якіх перабудова не задавальняла, але на гэтую горстку бюракратаў і прыхільнікаў лайдакоў не варта звяртаць увагі.

Перабудова таксама выклікала глыбокую цікавасць у краінах, што сталі на шлях развіцця. Яна прыцягнула да сябе вялікую ўвагу народаў капіталістычнага свету і спрыяльна адбілася на дзейнасці прагрэсіўных грамадстваў, якія стаяць за мір і змагаюцца за знішчэнне ядзернай зброі.

Хаця кнігу М. С. Гарбачова «Перабудова і новае мысленне для нашай краіны і для ўсяго свету» не многія, можа быць, прачытаюць на Захадзе, але тэлебачанне не можа абысціся без паказу дакументальных кадраў пра тое, што здзяйсняецца ў «звышдзяржаве», як там ідзе перабудова. Так ці інакш, у мысленні людзей капіталістычнага свету адбываюцца зрухі, многія пачынаюць разумець, што чалавецтва зайшло ў тупік з вар'яцкім назапашваннем ядзернай зброі, што пагражае свету катастрофай.

Гэта новае мысленне назіраецца як у Аўстраліі, так і ў Новай Зеландыі, дзе я знаходжуся цяпер. Імя Гарбачова стала вядома ўсім, што азначае зацікаўленасць людзей у тым, што адбываецца ў СССР. Мяне часта пытаюць пра дэталі перабудовы, разабрацца ў якіх ім цяжка.

І сярод абывацеляў, якія патанулі ў сваіх дробязных справах і клопатах, перабудова выклікала нейкія новыя, светлыя думкі. На святах, наладжваемых Рускім грамадскім клубам, можна заўважыць новых людзей. Яны цікавяцца тым, што адбываецца сёння на іх былой Радзіме.

Шматлікая калонія выхадцаў з Кітая, якая складаецца са змешаных шлюбаў паміж рускімі і кітайцамі, выказала жаданне бліжэй пазнаёміцца з прагрэсіўнымі рускімі, увайсці ў кантакт з Рускім грамадскім клубам.

Хацелася б, каб перабудова на нашай Радзіме знайшла сапраўдны водгук у сэрцах суайчыннікаў, а галоўнае, у сэрцах маладых людзей.

Гарачы аптыміст М. С. Гарбачоў, які прадстаўляе ўвесь савецкі народ, піша ў сваёй кнізе: «Мы пераходзім праблемамі, якія самі ставілі вельмі востра, і выйдзем да намечаных рубяжоў. Трэба яшчэ ўлічыць характар нашага народа. Калі ўжо ён, як гаворыцца, «закрануты за жывое», калі закрануты яго патрыятычныя пачуцці, ён не пашкадуе сіл і свайго даб'ецца, можа літаральна тварыць цуды».

Суайчыннікі лічаць, што перабудова ўвойдзе ў гісторыю як пераломны пункт у мысленні чалавецтва і павядзе ўсе народы нашай Зямлі да супрацоўніцтва і мірнага суіснавання паміж імі.

Гарбачоў жадае, каб у народа кожнай краіны быў дастатак, дабрабыт і шчасце.

**Эразм ЛЯВІЦКІ.**

Аўстралія.

(Заканчэнне. Пачатак у № 41).

## БССР: ШЛЯХІ СТАНАЎЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

# АРЫЕНТАЦЫЯ

Вывад напрошваецца сам сабой: трэба дыпламатычна прызнаць БНР. У выніку ў асобе нацыянальнага ўрада беларускае насельніцтва ўбачыць свайго выратавальніка і надзею. Праўда, каб урад БНР мог выконваць свае функцыі, неабходна ўвесці ў Беларусь замежныя войскі.

Акрамя розных «нот», «мемарандумаў», «заяў», урад БНР спрабаваў выказаць сваю пазіцыю ваенным, дыпламатычным, харчовым і іншым місіям заходніх дзяржаў, якія наязджалі ў Польшчу, Літву, Латвію. У лютым 1919 года ён інфармаваў аб сваіх патрабаваннях прыбыўшага з Варшавы ў Гродна прадстаўніка амерыканскай харчовай місіі палкоўніка В. Грове. Як пісаў потым І. Варонка ў брашуры «Беларускае пытанне да моманту Вярсальскай мірнай канферэнцыі», выдадзенай на беларускай, рускай, польскай, літоўскай і нямецкай мовах (Коўна, 1919 год), БНР спадзявалася выкарыстаць амерыканца «як перадатачную інстанцыю для выказвання сваёй журбы перад тварам міру».

У сакавіку 1919 года са «становішчам спраў» у Беларусі знаёміўся кіраўнік другой амерыканскай харчовай місіі маёр Рос, які прыбыў у Коўна. У красавіку 1919 года Міністэрства беларускіх спраў пры Літоўскім урадзе вяло перагаворы з кіраўніком французскай ваеннай місіі палкоўнікам Рэбулем.

У той жа час з беларускімі дзеячамі раіўся прадстаўнік англійскага ўрада Г. Ватсан. «І на гэты раз, — пісаў І. Варонка, — беларуская справа была зноў асветлена з названых вышэй пунктаў гледжання ў чаканні справядлівага голасу з Парыжа». Падрабязнейшы «мемарыял аб беларускім нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні» ў маі 1919 года І. Варонка ўручыў шэфу ваенна-палітычнай місіі ЗША ў Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі і Літве В. Грыну. Мемарыял з 18 дакументамі быў адрасаваны і мірнай канферэнцыі ў Парыжы. «Дыпламатычныя акцыі» БНР мелі пэўныя мэты: заявамі, нотамі, пратэстамі, пасылкай дэлегацый прыцягнуць да «беларускага пытання» ўвагу сусветнай грамадскасці і, калі пашанцуе, дабіцца прыхільнасці краін Антанты і ў выніку — афіцыйнага прызнання БНР.

Пратэсты Рады БНР супраць захопу польскімі войскамі Гродзеншчыны Антанта пакінула без увагі. Як прызнаваў І. Варонка, «доўгацярплівае чаканне выпадкаў бы выратавальныя войскі Антанты з'явяцца на тэрыторыі Літвы і Беларусі і выратуюць край ад новага прыгнечання і разбурэння, уступіла месца поўнаму расчараванню».

Тым не менш актыўнасць БНР на міжнароднай арэне не зніжалася. Стварыўшы «дыпламатычны апарат», БНР пасылала за мяжу «паўнамоцных паслоў», «місіі» і да т. п.

Апорай БНР у яе міжнародных акцыях была так званая ваенна - дыпламатычная місія ў Латвіі і Эстоніі, якая асталявалася ў Рызе. Адсюль даваліся дырэктывы агентам БНР за мяжой, рабіліся захады, каб стварыць «беларускае войска». У сакрэтнай дырэктыве шэфа «місіі» К. Езавітава «для ведама і выканання» эмісарам БНР адзначалася: «Беларусь не павінна заставацца ў сферы французскага ўплыву і павінна перайсці ў сферу англійскага ці амерыканскага». А далей выкладаліся акалічнасці, якія павінны былі выклікаць зацікаўленасць у «беларускім пытанні» англічан і амерыканцаў. «4) Беларусь — найбольш выгадны плацдарм для наступлення на бальшавіцкую Маскву, калі ідзяя падобнага паходу кім-небудзь яшчэ падзяліецца, бо яна яшчэ не думае мірыцца з бальшавікамі, і мяжа яе за 280 кіламетраў ад Масквы; 5) Беларусь — лес, пянька, шкіпінар, запалкі, шкло, скуры, лён, алей, гусі, сена, бульба, спірт і цукар; 6) Беларусь праглыне ў неабмежаванай колькасці машыны, суконы, маторы, электрычныя правады, лямпы, прыборы, інструменты, медыкаменты». Заходнія дзяржавы, са свайго боку, цікавіліся прыроднымі багаццямі Беларусі. Так, у чэрвені 1920 года «канцылярыя» Савета міністраў БНР дала падрабязную даведку нейкаму пану маёру Дзірыксу аб вытворчасці льну ў Беларусі. У даведцы паведамлялася, што Беларусь у складзе Расійскай імперыі займала першае месца па вытворчасці гэтага прадукту. У [illegible]купіраванай Польшчай Бел[illegible]і знаходзіцца ад 3-х да 5-ці мільёнаў пудоў льну, прыгоднага на экспарт. У арганізацыі закупкі льну ўрад БНР абяцаў усялякае садзейнічанне заходнім бізнесмен[illegible] тым больш, што яго чле[illegible] з'яўляліся вядомыя беларускія кааператары, як К. Душэўскі, Э. Будзько і інш.

Як сведчаць дакументы, краіны Антанты, ажыццяўляючы інтэрвенцыянісцкую палітыку ў адносінах да Савецкай краіны, насуперак сцвярджэнням Рады БНР, улічвалі «беларускі фактар». Яны не маглі не цікавіцца, у прыватнасці, тым, на што здольны антыбальшавіцкія сілы ў Беларусі, у тым ліку Рада БНР. Беларусь была аб'ектам у ваенна-палітычных камбінацыях Францыі, Англіі, ЗША. З разгромам армій Калчака і Дзянікіна Польшча станавілася галоўным звяном у прадуджэнні інтэрвенцыі і спробах знішчыць уладу Саветаў. Шырокавяшчальныя заявы краін Антанты аб правах малых народаў мала значылі на справе, калі размова ішла аб інтарэсах імперыялістычных дзяржаў, аб планах знішчэння Савецкай улады, падзеле сфер уплыву. Дарэчы, пра ўвагу да Беларусі з боку заходніх дзяржаў. Англійскі міністр замежных спраў лорд Керзан прадэманстраваў грунтоўныя веды ў такім складаным пытанні, як этнаграфічныя граніцы паміж Польшчай і Беларуссю, калі летам 1920 года польскае воінства пад ударамі Чырвонай Арміі ў паніцы ўцякло з Беларусі. Савецкая краіна прызнавала «лінію Керзана» ў якасці арыенціра для ўстанаўлення савецка-польскай дзяржаўнай мяжы.

Заходнія палітыкі глядзелі на рэчы практычна: што рэальнага можа даць Рада БНР у барацьбе з бальшавіцкай Расіяй. Сама Рада БНР прызнавала, што для ўзяцця ёю ўлады патрэбна дапамога антантаўскіх войск. Рада, пастаянна заяўляючы аб абароне нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, аб тым, што яна сапраўдны выразнік яго інтарэсаў, не знаходзіла падтрымкі працоўных Беларусі.

Разам з мэтамі, накіраванымі на атрыманне дыпламатычнага прызнання, БНР рабіла спробы арганізаваць сваё войска. У гэтым яна бачыла і шлях да павышэння свайго прэстыжу. Рада імкнецца пераканаць краіны Антанты, а таксама ЗША, што ў выпадку прызнання БНР яна магла б стаць значнай ваеннай сілай. І калі БНР да гэтага часу не змагла стварыць армію, дык гэтаму, маўляў, перашкодзілі бальшавікі, а затым немцы, «якія вялі палітыку заігрывання з бальшавікамі і, нягледзячы на неадназова ўзбуджаемыя Радай Беларускай народнай рэспублікі хадайніцтвы, не дазволілі беларусам пачаць стварэнне сваёй арміі». Спробы стварыць «беларускую армію» не ўдаліся і ў 1917 годзе ў перыяд усталявання Савецкай улады, і ў час нямецкай акупацыі Беларусі. У 1919 годзе ўдалося нешта арганізаваць пры падтрымцы Літоўскай тарыбы. Але польскае камандаванне, захапіўшы ў красавіку 1919 года Гродна, раззброіла так званы 1-шы пяхотны беларускі полк.

Таму проста-такі знаходкай аказалася для БНР белагвардзейскае войска генерала Булак-Балаховіча, якое дыслацыравалася ў 1919 годзе ў Эстоніі і ўдзельнічала там у баях з Чырвонай Арміяй.

У пісьме Радзе БНР ад 14 лістапада 1919 года Балаховіч, называючы сябе атаманам добраахвотніцкага народнага атрада, пісаў: «З'яўляючыся грамадзянінам Беларускай народнай рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было выкарыстана для абароны цэласнасці і непадзельнасці маёй бацькаўшчыны, а таму прапаную Ураду залічыць мяне і мой атрад на беларускую службу». К. Езавітаў паспяшаўся паведаміць Балаховічу, што з 15 лістапада ён лічыцца «на службе ў арміі Беларускай народнай рэспублікі, як камандзір асобага атрада Беларускай народнай рэспублікі ў Эстоніі».

Балаховічу ліслівілі, яго высока ўзнімалі. Генерал П. Вент, які называў сябе «саветнікам ваенна-дыпламатычнай місіі БНР у Эстоніі і Латвіі», пісаў Балаховічу: «Пра Вас ведае ўжо ўся беларуская, латышская і нямецкая прэса. Усе сустракаюць вельмі прыязна. Хутка будзе трубіць французская, англійская і амерыканская. Крокі ўжо зроблены. Моцна трымайцеся, як бы ні было цяжка. Ваш атрад павінен прыйсці на радзіму з такім жа трыумфам, як атрад Галера ў Польшчу...»

БНР вядзе перагаворы з эстонскім урадам адносна прававога становішча «асобага атрада Беларускай народнай рэспублікі пад камандаваннем генерала Булак - Балаховіча». БНР дабівалася, каб атрад з усімі родамі зброі як асобная баявая адзінка агульнай колькасцю да 10 тысяч чалавек знаходзіўся пры 2-й эстонскай дывізіі. Да выхаду «на сваю тэрыторыю» атрад павінен быў падпарадкоўвацца эстонскаму галоўнаму камандаванню. Зразумела, утрыманне атрада за кошт крэдыту, які адпускаўся БНР эстонскім урадам. Планавалася перабазіраваць «асобы атрад» на тэрыторыю Латвіі ў раён Дзвінска, а адтуль рабіць наступленне на Полацк і Віцебск, каб апынуцца на тэрыторыі Беларусі.

Але неўзабаве Балаховічу давялося пакінуць Эстонію. 2 лютага 1920 года буржуазная Эстонская рэспубліка і Савецкая Расія падпісалі мірны дагавор, які забараняў Эстоніі трымаць на сваёй тэрыторыі любыя [illegible]рдавыя войскі, а таксама [illegible]іць вярбоўку і мабілізацы[illegible] асабовага складу ў рады замежных арміі, якія маюць на мэце ўзброеную барацьбу супраць Савецкай Расіі. Аналагічныя пастановы былі і ў дагаворы аб перамір'і буржуа[illegible] Латвіі і РСФСР, заключаным 30 студзеня 1920 года.

Воляй-няволяй Рада БНР вымушана была звярнуцца да Польшчы. Цікавае пісьмо «шэфа» ваенна - дыпламатычнай місіі ў Латвіі і Эстоніі К. Езавітава галоўнакамандуючаму польскай арміі 8 лютага 1920 года. Езавітаў просіць даць «кавалак фронта на левым флангу польскай арміі» і ўскласці на польскае інтэнданцтва «абавязак адпускаць для атрада Балаховіча ўсё неабходнае». Рада БНР не выстаўляе ніякіх умоў. Нацыянальны момант таксама не вылучаецца. Падкрэсліваюцца заслугі Балаховіча ў барацьбе супраць Чырвонай Арміі. І далей: «Перамір'е эстонцаў з бальшавікамі вымушае асобы атрад знаходзіцца ў спакоі ў той момант, калі не ўся наша бацькаўшчына — Беларусь ачышчана ад бальшавікоў. Каб не застацца без баявой працы, асобы атрад звярнуўся да мяне з просьбай перавесці яго на Беларусь». Як бачым, Рада БНР прапанавала супрацоўніцтва Пілсудскаму. Аднак польскае камандаванне мела свае ўласныя планы адносна выкарыстання белагвардзейскага войска, якое апынулася без спраў. І балахоўцы ўвайшлі ў склад польскай арміі. Польскае камандаванне паклапацілася аб папаўненні атрада свежымі сіламі, забеспячэнні рыштункам. Потым яно высока ацаніла атрад Балаховіча, характарызуючы яго як «сур'ёзную ваенную сілу, вельмі каштоўную ў баявых адносінах». У прыватнасці, вельмі высока былі адзначаны паслугі Балаховіча ў аперацыі па захопу ў кастрычніку 1920 года Пінска.

Арыентуючыся на Антанту, Рада БНР усяляк імкнулася дабіцца «змякчэння» ў «беларускім пытанні» пазіцыі Францыі — галоўнага саюзніка і заступніка Польшчы. Агенты Рады БНР (місія генерала О. Корчак-Васількоўскага) спрабавалі наладзіць кантакты з ваеннымі і дыпламатычнымі прадстаўнікамі Францыі, каб зацікавіць іх ідэяй стварэння беларускага войска для сумеснай вайны з Савецкай Расіяй. Французскія афіцыйныя прадстаўнікі на сустрэчы ў Стакгольме, мяркуючы па дакументах, нібыта выказвалі гатоўнасць аказаць падтрымку БНР фінансамі, прадуктамі харчавання, ваенным рыштункам. Але для гэтага БНР павінна была «здабыць тэрыторыю і дастатковую колькасць беларускіх салдат», узяць на сябе клопат па фарміраванню арміі. Для забеспячэння войска патрэбны былі порты на Балтыйскім моры. Таму па парадзе тых жа французаў БНР павінна была дабіцца ў Эстоніі, Латвіі і Літвы дыпламатычнага прызнання і згоды праз тэрыторыю гэтых дзяржаў забяспечваць «беларускую армію».

Рада БНР звярталася і да ЗША, спадзеючыся атрымаць ад іх зброю, рыштунак, абмундзіраванне, прадукты харчавання. Рыга і Лібава называліся портамі, праз якія меркавалася ажыццяўляць пастаўкі для БНР.

У чэрвені 1920 года БНР паслала сваю дэлегацыю ў Парыж. Згодна з атрыманымі паўнамоцтвамі «міністру» Е. Ладнову даручалася «абараняць незалежнасць і суверэннасць Беларускай народнай рэспублікі на сусветнай канферэнцыі і перад дзяржавамі Антанты і весці перагаворы, уручаць і падпісваць дакументы». «Міністр» упаўнаважваўся заключаць эканамічныя, гандлёвыя і фінансавыя пагадненні, у прыватнасці, ад імя ўрада БНР рабіць грашовую пазыку ў Францыі.

Мяркуючы па гэтых «паўнамоцтвах», Рада БНР у нейкай меры дабілася ўзмацнення сваіх пазіцый у Парыжы і Лондане, і яна нават разлічвала на дыпламатычнае прызнанне. Натхніцелям інтэрвенцыі супраць Савецкай краіны нельга было не лічыцца з палітычным становішчам у акупіраванай Беларусі, з пагаршэннем магчымасцей Польшчы працягваць вайну.

Але ваенна - палітычная сітуацыя ў другой палавіне 1920 года крута змянілася. Заключэнне савецка-польскага перамір'я ў кастрычніку 1920 года пахавала надзеі беларускай эміграцыі і яе прыхільнікаў на ажыццяўленне планаў стварэння беларускай дзяржаўнасці па ўзору прыбалтыйскіх буржуазных рэспублік.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар.**

# БРАТЭРСТВА ПА ЗБРОІ

Сёлета споўнілася 45 год народнаму Войску Польскаму. З нагоды гэтай даты прайшлі шматлікія ўрачыстасці і ў Беларусі, дзе 12 кастрычніка 1943 года каля беларускага пасёлка Леніна поплеч з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі ў бой з гітлераўскімі захопнікамі пайшлі воіны Першай Польскай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, сфарміраванай з польскіх патрыётаў на тэрыторыі СССР.

Першая армія Войска Польскага змагалася ў саставе Першага Беларускага фронта пад камандаваннем Маршала Савецкага Саюза Георгія Жукава. Яе салдаты вызвалялі Варшаву. У непасрэдным штурме сталіцы гітлераўскай Германіі таксама прымалі ўдзел польскія воіны. І ў апошнія дні вайны над руінамі Берліна разам з пераможнымі савецкімі сцягамі лунаў польскі бела-чырвоны сцяг.

У гістарычным Парадзе Перамогі на Краснай плошчы ў Маскве ўдзельнічаў атрад Войска Польскага. За сваю мужнасць 30 атрадаў народнага Войска Польскага і звыш 5 тысяч польскіх салдат былі ўзнагароджаны савецкімі ордэнамі.

А цяпер савецкія былыя воіны атрымліваюць польскія ўзнагароды. Памятны знак «Брацтва па зброі» прымацавала побач з іншымі баявымі ўзнагародамі ПНР былая радыстка — ветэран 4-й Памеранскай авіяцыйнай дывізіі, жыхарка Гродна Лізавета Ганчарова. Такіх жа знакаў была ўдастоена цэлая група ветэранаў Войска Польскага і Савецкай Арміі, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Польшчы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Урачысты сход, прысвечаны 45-й гадавіне народнага Войска Польскага, прайшоў у сталіцы Беларусі. На ім прысутнічалі прадстаўнікі рэспубліканскай грамадскасці, старыя салдаты, моладзь.

## СТАРОНКІ З НЕНАПІСАНАЙ КНІГІ ПРА М. ДАБРАЛЮБАВА

# «ПАГЛЯДЗІМ, ШТО ЯШЧЭ СКАЖУЦЬ САМІ БЕЛАРУСЫ...»

Словы, якія далі назву гэтым нататкам, належаць Мікалаю Дабралюбаву — палымянаму рэвалюцыянеру, выдатнаму рускаму літаратурнаму крытыку.

У ягоным жыцці, кароткім, але светлым і яркім, ёсць факты, што непасрэдна звязаны з нашай Бацькаўшчынай — Беларуссю. Падкрэслім: факты зусім не адзінкавыя. Некаторыя з гэтых, важных для нас момантаў ужо разглядаліся беларускім літаратуразнаўствам, але асобныя, істотныя і значныя аспекты беларускіх сувязей Дабралюбава да сённяшняй пары належнага асвятлення не атрымалі, хоць яны, несумненна, даўно заслугоўваюць самай скрупулёзнай увагі.

Давайце ж разам пагартаем старонкі з не напісанай пакуль што кнігі: «Мікалай Аляксандравіч Дабралюбаў і Беларусь».

...У канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя з благаслаўлення царскага ўрада ў грамадстве па-ранейшаму панаваў устойлівы погляд на Беларусь як толькі на геаграфічнае паняцце: ніякага беларускага народа няма, а між Дняпром, Бугам і Дзвіною жывуць цёмныя, забітыя, забытыя богам людзі, якія змардаваны працяглай паланізацыяй, сапсаваны каталіцызмам і гавораць на мясцовым расійскім дыялекце.

Ці маглі змаўчаць, змірыцца з такім пунктам гледжання вялікія рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты? Безумоўна, не! І Дабралюбаў у сваім праграмным артыкуле «Рысы для характарыстыкі рускага простанароддзя» (упершыню надрукаваны ў верасьнёўскім нумары «Современника» за 1860 год), пачаўшы з «агульнавядомай» канцэпцыі наконт беларусаў, піша: «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашаная: забіты канчаткова, так што пазбавіўся нават выкарыстання чалавечых здольнасцей. Не ведаем, у якой ступені фальшывае гэткае меркаванне,.. але паверыць гэтаму, зразумела, не можам». Далей крытык пераходзіць у рашучы наступ: («Цэлы край так вось узялі ды забілі,—як бы не так! Гэта тое самае, як італьянцаў забілі... пазбавілі любові да радзімы і да свабоды!... Паглядзіце ж зараз на іх)[1]... Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

Звярніце ўвагу, з якой цвёрдай перакананасцю сцвярджае аўтар: нельга і немагчыма цэлы народ, у даным выпадку — народ Беларусі, забіць, адабраць у яго высокае чалавечае званне і чалавечую годнасць, імкненне да свабоды, растаптаць у яго святую любоў да сваёй радзімы! Па моцы і гістарычнай значнасці гэта аптымістычнае выказванне М. Дабралюбава пра наш народ (нават у знявечаным цэнзурнымі нажніцамі выглядзе) у XIX стагоддзі параўнаць проста няма з чым, бо так пра беларусаў яшчэ ніхто дагэтуль не гаварыў. Што гэта? Ці толькі адна тэарэтычная перакананасць, ідэйная загартоўка паслядоўнага рэвалюцыянера-дэмакрата? Не, не толькі. Вялікая вера Дабралюбава ў светлую будучыню беларусаў грунтавалася на даволі шырокім веданні канкрэтна-гістарычных умоў тагачаснай Беларусі. Параўноўваючы беларусаў з італьянцамі, чыя барацьба за нацыянальнае вызваленне зрабілася ў тыя гады сінонімам грамадзянскага патрыятызму і несакрушальнасці, Мікалай Дабралюбаў рашуча адкідвае пашыраны, але ў корані несправядлівы, павярхоўны погляд на беларусаў, які зыходзіў ад прадажных пляткароў, адным разам адмятае з гневам усе іх наскрозь ілжывыя канцэпцыі, што буйна ўзраслі на шчодрай глебе шавіністычных вялікадзяржаўных амбіцый царызму. Ён бачыць у беларусах сваіх братоў-славян, такіх жа бяздольных, як і паднявольны сусед,— рускі народ. Але, у адрозненне ад лібералаў, бачыць прыгнечаныя масы краіны незламанымі, няскоранымі, якія мелі ў сабе да часу затоены невычэрпны рэвалюцыйны патэнцыял. Менавіта ў гэтым, паводле ягонай празорлівай думкі, падмурак надзеі, што беларусы разам з іншымі народамі здабудуць сапраўднае, вялікае шчасце, якое заваёўваецца толькі барацьбой.

І Дабралюбаў верыць: у барацьбе за волю беларусы скажуць сваё важкае слова! Яго выраз, які стаў крылатым, «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы», можна разглядаць у шырокім сэнсе і ў больш вузкім значэнні. Цэнзура, вядома, звяла яго толькі да апошняга, і ў «Современнике» пасля гэтай фразы было надрукавана: «Дарэчы, мы ўжо чулі, што з будучага года мяркуюць выдаваць «Белорусский вестник», рэдакцыю якога бярэ на сябе нехта П. (ан) Акрэйц, чалавек, на стараннасць і высакароднасць накірунку якога можна спадзявацца». А цэнзурнай купюрай зрабіліся «крамольныя» словы аўтарскага арыгінала, якія папярэднічалі прыведзенай вышэй цытаце: «...пытанне аб характарыстыцы беларусаў хутка павінна быць растлумачана працамі мясцовых (беларускіх — **М. З.**) пісьменнікаў».

Што ж тут меў на ўвазе Дабралюбаў? Безумоўна, не афіцыйную, з драпежным двухгаловым арлом казённую трыбуну «Губернских ведомостей» — адзіную легальную перыёдыку беларускага краю ў той, далёка не лепшы перыяд нашай гісторыі. Чакаць хоць якога новага слова пра беларусаў ад гэтых куртатых, чыноўніцкіх выданняў, што мелі галоўнай мэтай абвяшчаць «да ведама, кіраўніцтва і няўхільнага выканання» найважнейшыя распараджэнні цэнтральнай і губернскай адміністрацыі, чакаць ад іх чагосьці свежага не даводзілася. Таму Дабралюбаў і ўскладаў пэўныя спадзяванні на «Белорусский вестник».

Выказванне М. Дабралюбава наконт «Белорусского вестника» даўно прыцягвала ўвагу навукоўцаў і пісьменнікаў нашай рэспублікі. Але і сёння тут яшчэ далёка не ўсё як след высветлена.

Знаёмячыся з дакументамі, звязанымі з Дабралюбавым, іншымі крыніцамі той пары, мы адзначылі некалькі фактаў, якія дагэтуль не траплялі ў поле зроку даследчыкаў. Так, напрыклад, у «Летапісе жыцця і дзейнасці М. А. Дабралюбава» неаднойчы называецца Аўгуст Янкоўскі — студэнцкі таварыш Мікалая Аляксандравіча па Галоўнаму педагагічнаму інстытуту. Ён з восені 1858 выкладаў геаграфію ў Магілёўскай губернскай гімназіі (апошняе знайшло адлюстраванне і ў адпаведных «Памятных кніжках Магілёўскай губерні»). «Летапіс» сцвярджае, што паміж былымі аднакурснікамі вялася ажыўленая перапіска: за 9 месяцаў, з 10 лістапада 1858 года да 1 жніўня года наступнага, Дабралюбаў атрымаў 7 лістоў з Магілёва. Хоць перапіска захавалася толькі часткова, мы ведаем, што ў магілёўскай карэспандэнцыі Дабралюбаву сярод іншага паведамляліся мясцовыя навіны, расказвалася аб парадках у навучальных установах губерні. Ёсць падставы меркаваць, што менавіта ад А. Янкоўскага вялікі рускі крытык даведаўся пра жаданне нядаўняга выпускніка віцебскай гімназіі, былога вольнага слухача Горыгорацкага земляробчага інстытута, які пасля крыху служыў у магілёўскай палаце дзяржаўных маёмасцей, Станіслава Акрэйца[2] заснаваць прыватны часопіс «Белорусский вестник».

М. Дабралюбаў надта зацікавіўся асобай будучага рэдактара, бо гэта ў пэўнай ступені дазваляла вызначыць палітычны накірунак перыядычнага органа, які планаваўся. Атрыманыя з Магілёва скупыя звесткі, відаць, не задаволілі цікаўнасці Дабралюбава. У снежні 1859 года ён папрасіў У. Дабравольскага — афіцэра, які скончыў акадэмію Генеральнага штаба і ехаў да месца службы — сустрэцца ў Магілёве з Акрэйцам і паведаміць свае ўражанні. Важнасць вынікаў місіі Дабравольскага для М. Дабралюбава падкрэслівалася тым, што даручэнне давалася далёка не выпадковаму ў рэвалюцыйных колах чалавеку (звесткі аб ім мы сёння можам знайсці ў такім аўтарытэтным навуковым выданні, як «Дзеячы рускага і польскага вызваленчага руху ў царскай арміі 1856—1865 гг.»).

Дабравольскі, выконваючы даручэнне, пісаў Дабралюбаву:

**«Магілеў-на-Дняпры. 20 студзеня 1860 г.**

**Мілы Мікалай Аляксандравіч!**

**Адразу па прыездзе ў Магілёў я ўзяўся шукаць Акрэйца; гэты пан вельмі малады, гарачы рэдактар будучага часопіса. Ён не жадае і думаць аб тым, каб адмовіцца ад сваёй задачы прымірэння двух элементаў[3]. Ён жадае для аўтарытэта (падкрэслена аўтарам пісьма — М. З.) у Магілёве надрукавання свайго імя ў «Современнике». Зрэшты, ён будзе пісаць да Вас сам. Бог іх ведае, чаго яны жадаюць і дзеля чаго. Паводле ягоных слоў, засмучае яго гэты разлад у адным сямействе — дваранстве. Што да мужыкоў, дык ён гаворыць, што яны быдла, і таму за іх без памешчыкаў брацца не варта. Зрэшты, ён жадае ехаць і растлумачыць усё на словах. Не засмучайце яго, калі можна».**

У наступным пісьме Дабралюбаву ад 6 сакавіка 1860 года, ужо з Жытоміра, Дабравольскі характарызуе стаўленне магілёўскіх памешчыкаў да ідэі Акрэйца выдаваць часопіс: **«Колькі я ні распытваў тутэйшых памешчыкаў пра думкі іх наконт гэтага прадпрыемства, усе знаходзяць яго недарэчным... яны знаходзяць, што для іх зусім дастаткова падобнага ж выдання ў Вільні «Курьера Виленского» і губерн(скіх) ведам(асцей)».**

Пасля гутаркі ў Магілёве з Дабравольскім Акрэйц звярнуўся да рэдакцыі «Современника». Для перагавораў з кіраўніцтвам перадавога часопіса ён упаўнаважыў А. Афанасьева. Магчыма, апошні планаваў стаць выдаўцом «Белорусского вестника». Афанасьеў меў праграму будучага выдання, акрамя таго, павінен быў абмеркаваць «усё, што тычыцца да часопіса нашага і ўдзелу, які «Современник»... яму зможа аказаць». Прывёз у Пецярбург Афанасьеў і пісьмо Акрэйца, дзе той (падкрэслім — не першы раз) настойліва прапаноўваў «Современнику» свае паслугі ў якасці аднаго з аўтараў. «У мяне ёсць,— пісаў ён,— шмат характарыстычных артыкулаў пра Беларусь як у вершах, узоры якіх рэдакцыя ўжо мае, так і ў прозе».

Як мы пераканаліся, Акрэйц сапраўды дасылаў «Современнику» свае «ўзоры». Але сцвярджаць, беручы пад увагу далейшыя паводзіны гэтага чалавека і іншыя, пакуль не зусім высветленыя абставіны, што Акрэйц — аўтар усяго дасланага матэрыялу, нельга.

Перагаворы з «Современником» скончыліся для Акрэйца не зусім безвынікова. Хоць «узоры» свету, натуральна, не ўбачылі, але, тым не менш, Акрэйц усё ж трапіў на старонкі гэтага часопіса. І трапіў не абы-як: ягонае, мала каму вядомае прозвішча назваў сам Дабралюбаў! Вельмі магчыма, што толькі гэтага ён настырна і дамагаўся.

Адзначым: М. Дабралюбаў скончыў «Рысы для характарыстыкі рускага простанароддзя», дзе названы С. Акрэйц і «Белорусский вестник», не пазней красавіка — пачатку мая 1860 года. Артыкул чытачы ўбачылі ў верасні, але аўтар у той час (3 мая) знаходзіўся за мяжой, куды паехаў лячыцца ад сухотаў. Напярэдадні ад'езду Дабралюбаў змог азнаёміцца з аўтарытэтнымі для сябе меркаваннямі Дабравольскага наконт Акрэйца і, натуральна, зрабіў

[1] **Пры першай публікацыі ў «Современнике» словы, узятыя намі ў дужкі, надрукаваны не былі: іх выкрасліла цэнзура. Поўны тэкст узноўлены з дапамогай чарнавіка арыгінала артыкула, які збярогся ў архіве.**

[2] **Нядаўна ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у г. Мінску мы знайшлі дакументы пра тое, што Акрэйц вучыўся ў віцебскай гімназіі разам з будучым рэвалюцыянерам Васілём Катырлам, якога вясною 1863 года арыштавалі ў Оршы за распаўсюджванне нелегальных адозваў «Зямлі і волі».**

[3] **Гутарка ідзе пра беларускіх дваран — прыхільнікаў польскага вызваленчага руху і, з другога боку, пра мясцовых «дабранадзейных» дваран, якія часам асцярожна і памяркоўна frandзіравалі, але, безумоўна, падтрымлівалі рэакцыйны курс унутранай палітыкі царызму.**

## РЭСПУБЛІКАНСКІ АГЛЯД-КОНКУРС

«Квітнее мой край беларускі» — пад такім дэвізам прайшоў рэспубліканскі агляд-конкурс прапаганды і распаўсюджвання беларускай літаратуры. Яго мэта — далейшае развіццё і ўдасканаленне работы дзяржаўных, прафсаюзных бібліятэк, кнігагандлёвых прадпрыемстваў і арганізацый добраахвотнага таварыства аматараў кнігі ў галіне беларускай літаратуры, нацыянальнай мовы і культуры.

У рамках агляду-конкурсу праводзяцца розныя мерапрыемствы: святы кнігі, канферэнцыі, вечары паэзіі і апавядання, бібліяграфічныя агляды, літаратурныя кампазіцыі, кніжныя выстаўкі, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, журналістамі, работнікамі выдавецтваў рэспублікі.

Цікавым было свята кнігі ў кінатэатры «Кастрычнік» гарадскога пасёлка Астравец. У ім прынялі ўдзел пісьменнік і вучоны Адам Мальдзіс, паэты Гродзеншчыны — Юрка Голуб, Рычард Бялячыц. Удзельнікі свята цёпла сустрэлі літоўскіх паэтаў Уладаса Бразюнаса, Байдутаса Даўніса, рэдактара польскіх перадач літоўскага радыё Уладзіслава Струмілу, члена літаратурнага аб'яднання пры газеце «Чырвоны штандар» Юзэфа Шастакоўскага.

Майстры паэтычнага слова з Літвы чыталі свае творы, гаварылі аб дружбе і супрацоўніцтве беларускага, літоўскага, рускага, украінскага народаў, аб тым, як ідзе перабудова.

Раённыя і гарадскія святы кнігі прайшлі таксама ў Барысаве, Слуцку, Мядзелі і іншых рэгіёнах.

Мікалай **РОЗУМ.**

## ПЕРАБУДОВА

## Ў САЮЗЕ МАСТАКОЎ СССР

# ПОШУК ВЫЙСЦЯ

**На пытанні карэспандэнта Агенцтва друку Навіны адказвае сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Іван ЛУБЕННІКАЎ.**

*— Праблем у Саюза мастакоў сабралася многа, як, зрэшты, і ў іншых творчых саюзах. Аднак, напрыклад, Саюзу кінематаграфістаў і Саюзу тэатральных дзеячаў удалося ўжо зрабіць тое-сёе, каб выйсці з зоны застою, а ў Саюзе мастакоў становішча спраў прыкметна не мяняецца. Ці сапраўды гэта так і што перашкаджае мастакам знайсці рытм перабудовы?*

— Перш за ўсё мне здаецца, што ў корані заганная спроба прыдумаць для ўсіх адны правілы. Кожны творчы саюз павінен апраўдваць сваю назву. Знайсці оптымум у пытаннях мастацтва практычна немагчыма, як, уласна, і ў палітыцы, і ў эканоміцы. Я асабіста за разнастайнасць усюды.

*— А чаму ў Саюзе мастакоў баяцца падобнай творчай разнастайнасці?*

— Справа ў тым, што занадта доўгі час у Саюза мастакоў і Мастацкага фонду была манаполія ў галіне выяўленчага мастацтва. Адмовіцца ад манаполіі—значыць, стаць на шлях канкурэнцыі. А для таго, каб паспяхова канкурыраваць, трэба мець добры запас творчай энергіі, прафесіянальных навыкаў і яшчэ быць добра зарыентаваным у сацыяльным жыцці. У нас на сёння мастак—гэта чалавек, які не мае сацыяльнага вопыту, таму што ён заключаны ў «шкарлупіну» саюза і мастацкага фонду, ён займаецца самазабеспячэннем. Напрыклад, манументалісты працуюць увесь час з заказчыкам, у іх ёсць пэўны вопыт. І з іх пазіцый вельмі добра бачна поўная сацыяльная непісьменнасць і інертнасць унутры Саюза мастакоў. Я не хачу сказаць, што «сацыяльна актыўны» мастак павінен абавязкова нешта навязваць, «весці наперад», не.

адпаведныя высновы. Таму ў «Современнике» Дабралюбаў выказаўся аб ім надзвычай стрымана: «Нехта п.(ан) Акрэйц», хоць ужо меў дастатковую інфармацыю, што гэты пан сабою ўяўляе. Палітычнае аблічча будучага рэдактара «Белорусского вестника» не выклікала прыхільнасці, не сустрэла прыкметнай падтрымкі ў Дабралюбава, як і ў іншых паслядоўных барацьбітоў з самадзяржаўем. Інакш скласціся і не магло...

Некалькі слоў аб шырокім значэнні дабралюбаўскага «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы». Хоць у канцы гэтага сказа, кінутага смелым выклікам «афіцыйнаму», зняважліваму погляду на беларусаў сам аўтар не паставіў клічнік, ён сюды міжвольна напрошваецца.

Меў рацыю Дабралюбаў! Яшчэ пры ягоным жыцці пачалі гаварыць беларусы сваё вялікае слова: у перыяд падрыхтоўкі скасавання прыгону і ў першыя пасляэформенныя гады тэрыторыя ўсіх пяці беларускіх губерняў была ахоплена полымем сялянскага змагання з памешчыкамі - прыгнятальнікамі. Людзі працы ў жорсткіх класавых бітвах яшчэ тады ўзяліся адваёўваць сваё адвечнае права людзьмі звацца. Ці ведаў пра гэта крытык? Ведаў! Але адкрыта выказвацца на старонках легальнага друку па пытаннях барацьбы сялянства, зразумела, не мог. У апошнія гады жыцця Дабралюбаў разгарнуў актыўную падпольную дзейнасць па арганізацыйнаму згуртаванню антыўрадавых сіл, разам з Мікалаем Чарнышэўскім ён стаяў ля вытокаў першай рэвалюцыйнай агульнарасійскай «партыі» «Земля и воля», у складзе якой з царызмам змагаліся і многія патрыёты-беларусы. А калі летам 1862 года загрымела вольным беларускім словам «Мужыцкая праўда» — адна з першых у свеце падпольных сялянскіх газет,— дыкяе праграма сацыяльнай перабудовы грамадства была блізкай да зместу нелегальных пракламацый і адозваў, напісаных бліжэйшымі паплечнікамі Дабралюбава.

Апагей дзейнасці Дабралюбава прыпадае якраз на першы агульнанацыянальны крызіс у краіне — рэвалюцыйную сітуацыю, калі, паводле слоў Леніна, «самы асцярожны і цвярозы палітык павінен быў бы прызнаць рэвалюцыйны выбух зусім магчымым і сялянскае паўстанне — небяспекай вельмі сур'ёзнай». Менавіта тады Мікалай Дабралюбаў на ўвесь голас аптымістычна выказаў сваю перакананую ўпэўненасць у светлым заўтрашнім дні беларусаў.

Сёння мы ганарымся, што ў жыцці гэтага выдатнага чалавека былі цікавыя старонкі, звязаныя з нашай Беларуссю, у вялікую будучыню якой ён адным з першых свята і цвёрда паверыў!

**Мар'ян ЗАЙЦАЎ.**

# «ШМАТКНІЖНАЯ АМЕРЫКА» Ў СТАЛІЧНАЙ КНІГАРНІ











**У сталічнай кнігарні «Светач» адкрылася выстаўка «Шматкніжная Амерыка». Увазе наведвальнікаў прапануецца тысяча кніг. Гэта прадукцыя некалькіх соцень амерыканскіх выдавецтваў. А наогул 13 500 вялікіх і невялікіх выдавецтваў гэтай краіны выпускаюць штогод больш за 51 тысячу назваў кніг.**

**З выстаўкай з-за акіяна паспелі ўжо пазнаёміцца жыхары Новасібірска, а пасля Мінска падобная экспазіцыя будзе разгорнута ў сталіцы Грузінскай ССР — Тбілісі. Адначасова ў Злучаных Штатах — у Вашынгтоне, Бостане, Лос-Анджэлесе — амерыканскія чытачы могуць пазнаёміцца з паліграфічнай прадукцыяй нашых выдавецтваў, якая дэманструецца пад дэвізам: «СССР: публічнасць і перабудова». Гэтае мерапрыемства, арганізаванае па ініцыятыве Дзяржкамвыда СССР і Інфармацыйнага агенцтва ЗША, стала магчымым у выніку падпісання ў лістападзе 1985 года Генеральным сакратаром ЦК КПСС М. Гарбачовым і прэзідэнтам Р. Рэйганам Агульнага пагаднення праабмен у галіне культуры. Адкрылі выстаўку ў Мінску першы намеснік старшыні Дзяржкамвыда БССР С. Нічыпаровіч і аташэ па культуры пасольства ЗША ў Маскве Вік Яковіч.**

**Выстаўка «Шматкніжная Амерыка» карыстаецца папулярнасцю наведвальнікаў. Пасля яе закрыцця ўся тысяча кніг з экспазіцыі будзе перададзена ў дар бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.**

**НА ЗДЫМКАХ: шмат жадаючых убачыць выстаўку; у зале выстаўкі.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

Мастак павінен гэтак жа, як і любы іншы чалавек, рабіць добра сваю справу. А будзе ён «весці» ці, наадварот, «тармазіць», гэта ўжо пытанне жыцця. Я ў гэтым глыбока перакананы. Галоўнае—ствараць дастойныя рэчы.

*— А калі звярнуцца да замежнага вопыту?*

— У Парыжы, напрыклад, ёсць факультэт візуальных камунікацый. Ён замяняе ўсё. І я лічу, што гэта вельмі мэтазгодна. Дарэчы, толькі выпускнікі гэтага факультэта робяць на мяне добрае ўражанне сярод мастацкай моладзі. Таму што ўсе астатнія, груба кажучы, людзі недасведчаныя. Яны вельмі вузка зарыентаваны—толькі на самарэалізацыю: што магу, толькі тое і раблю. А «візуальныя камунікацыі»—гэта адукацыя, гэта кругагляд, гэта ўяўленне аб свеце, аб прасторы.

*— Чаму б і ў нас не адкрыць такі факультэт?*

— Але справа ж не ў назве, а ў людзях, якія прафесіянальнай адукацыяй занятыя. А ў нас занадта сур'ёзны разрыў паміж становішчам спраў у сучаснай сусветнай культуры і нашымі ўяўленнямі аб цэхавасці, аб нейкіх прафесіянальных планах. Мы з-за таго і б'ёмся ўвесь час, што зразумець адзін аднаго не можам, размаўляючы на розных мовах. Прычым аднымі словамі гаворым пра рознае і рознымі словамі называем адно і тое ж.

*— Зусім як у цяперашняй дыскусіі пра сацрэалізм...*

— Так. Наконт гэтага я ўжо не раз выказваўся, для мяне гэтая тэма вычарпана, бо лічу, што рэалізм бывае толькі рэалізмам, ён не бывае ні «сац», ні «кап», ні рэалізмам краін, што сталі на шлях развіцця. А тое, што ў нас прымаюць іншы раз за «рэалізм», на самай справе—чысты фармалізм. Таму што любое мастацтва, якое не мае рэальнай духоўнай чалавечай асновы, народжанае без рэальнага жадання і натхнення,—гэта фармалізм.

*— Чым жа, на вашу думку, усё-такі скончыцца гэтая дыскусія вакол сацрэалізму?*

— Адменай тэрміна, я думаю.

*— Ці ёсць перспектывы ў Саюза мастакоў на выхад з тупіка?*

— Ёсць. Трэба спрабаваць жыць інакш, спрабаваць новыя эканамічныя ўмовы, новыя эканамічныя сродкі.

*— Некаторыя лічаць выйсцем стварэнне творча-вытворчых аб'яднанняў са статусам юрыдычнай асобы...*

— Гэта пошук выйсця. Выйсцем гэта адразу назваць нельга. Трэба спачатку праверыць, і калі будзе вынік станоўчы—значыць, выйсце. А, увогуле, гэта задума цікавая, і мы цяпер спрабуем яе ўкараніць.

*— На ўсіх узроўнях грамадства зараз вельмі востра стаіць пытанне аб кантакце з моладдзю. Апошнім часам дзверы ў СМ для маладых прыадчыніліся шырэй. Але ці вырашае такое, увогуле, фармальнае далучэнне да прафесіянальнага клана складаную маладзёжную праблему?*

— Ёсць цудоўнае выказванне: «Усе дарогі вядуць у Рым», і калі мне гавораць: «А чаму ў СМ столькі баласту і няздольных мастакоў?», я перш за ўсё пачынаю разважаць аб адукацыі. Усё ўпіраецца ў адукацыю. І калі выкладаць мастацтва будуць майстры, якія працуюць і маюць поўныя веды аб сваёй прафесіі, то будзе і адукаваная моладзь, будуць і дастойныя члены СМ.

*— Як вы лічыце, ад якога няправільнага стэрэатыпу мыслення Саюзу мастакоў трэба пазбавіцца ў першую чаргу?*

— Што нехта камусьці нешта павінен. Я ў сваім жыцці прывык ва ўсім разлічваць на сваю галаву і свае рукі і лічу, што арганізаванае грамадскае размеркаванне даброт вельмі шкоднае.

*— Якой вы бачыце перабудову ў выяўленчым мастацтве?*

— Па-першае, гэта дасягненне такога становішча, пры якім таленавіты мастак мае свой статус, а пасрэдны—свой, які не разыходзіцца з сутнасцю яго невялікіх магчымасцей.

І другое, што для мяне вельмі істотна, гэта захаванне мастаком пачуцця ўнутранай свабоды творчасці. На гэтым базіруецца павага да мастака і павага яго да сябе. Гэта павінна стаць грамадскай патрэбнасцю.

**Ірына НЭЙЧ.**

## ПАСЛЯ ЗАВЯРШЭННЯ XXIV ЛЕТНІХ АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ

# ВЫСТУПІЛІ З ГОДНАСЦЮ

**Напярэдадні XXIV летніх Алімпійскіх гульняў наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Дзяржаўнага камітэта БССР па фізічнай культуры і спорту Валянцінам САЗАНОВІЧАМ і вёў гутарку аб падрыхтоўцы беларускіх алімпійцаў («Голас Радзімы» № 24 г. г.). Тады Валянцін Пятровіч даў згоду пракаменціраваць вынікі выступленняў прадстаўнікоў Беларусі ў Сеуле. Сваё абяцанне ён выканаў.**

**Прапануем увазе чытачоў гэту гутарку, якая адбылася з Валянцінам Сазановічам адразу пасля заканчэння Алімпійскіх гульняў.**

*— Валянцін Пятровіч, усе хваляванні, звязаныя з Алімпійскімі гульнямі, скончыліся. Як ні палохалі нас у першыя дні страты ў медалях, а зборная СССР і на гэты раз аказалася па-за канкурэнцыяй.*

— У алімпійцаў зборнай каманды Савецкага Саюза самая вялікая колькасць медалёў: 132. З іх 55 залатых, 31 сярэбраны і 46 бронзавых. Для параўнання адзначым, што ў спартсменаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі на трыццаць, а ў ЗША на 38 медалёў менш. Менавіта паміж СССР, ГДР і ЗША і ішла камандная барацьба ў Сеуле. Чэмпіёнамі Гульняў сталі 120 савецкіх спартсменаў. Кожны пяты заваяваў вышэйшую ўзнагароду. Выпадак у спорце, можна лічыць, унікальны.



**Аляксандр РАМАНЬКОЎ віншуе Марыну ЛОБАЧ з перамогай на спаборніцтвах па мастацкай гімнастыцы.**

*— Як, на вашу думку, выступілі прадстаўнікі Беларусі? Назавіце тых, хто найбольш вызначыўся.*

— Беларускім алімпійцам было ўручана 27 медалёў. Па вартасці гэта выглядае так: 17 залатых, 3 сярэбраныя і 7 бронзавых узнагарод. Цяпер прапаную звярнуцца да выніковай табліцы Гульняў. У першую дзесятку лепшых каманд увайшлі Францыя і Італія. Кожная з гэтых краін заваявала па шэсць вышэйшых узнагарод. Такую ж колькасць залатых медалёў маюць у асабістым заліку і пасланцы нашай рэспублікі. Па ўсіх паказчыках беларускія спартсмены абышлі алімпійцаў Іспаніі, Швецыі, Бразіліі і многіх іншых краін, а іх на Гульнях было сто шэсцьдзесят.

Прыемна таксама, што першая вышэйшая ўзнагарода дасталася беларускай спартсменцы Ірыне Шылавай за перамогу ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі...

*— ...і апошняя таксама.*

— Вось, вось. Вячаслаў Яноўскі з Віцебска ўпэўнена правёў усе баі на баксёрскім рынгу.

Сапраўднай гераіняй стала мінская гімнастка Святлана Багінская: два залатыя, адзін сярэбраны і адзін бронзавы медалі. Дзве вышэйшыя ўзнагароды дасталіся весляру з Бабруйска Віктару Ранейскаму. Першае і другое месцы ў нашай лёгкаатлеткі Таццяны Лядоўскай. Ці ж не спартыўны подзвіг здзейсніў трыццаціпяцігадовы фехтавальшчык Аляксандр Раманькоў?! Сам заваяваў бронзавы медаль у асабістым заліку, а пасля быў сапраўдным капітанам каманды рапірыстаў, якая стала чэмпіёнам Алімпіяды.

*— Ці не раскрыеце сакрэт паспяховага выступлення нашай каманды ў Сеуле?*

— Ёсць такая прымаўка: моцнаму заўжды шанцуе. Але калі без жартаў, то ў нас сапраўды шмат выдатных спартсменаў. Было з каго выбіраць на Алімпіяду. На пачатку Гульняў у многіх газетах свету з'явіліся паведамленні, што сярод запасных знаходзіцца зорка гімнастыкі Аксана Амяльянчык. Можа рызыкавалі трэнеры, калі даручылі выступаць у Сеуле больш маладым, той жа мінчанцы Святлане Багінскай ці магілёўчанцы Святлане Баітавай?.. Не! Тут не было ніякай рызыкі. На сённяшні дзень беларускія гімнасткі больш моцныя, чым Аксана Амяльянчык.

Спартыўны, дэмакратычны прынцып адбору алімпійцаў — вось галоўны сакрэт поспеху нашай каманды. Няма чаго хаваць такія факты, што ў мінулым былі нярэдка негатыўныя з'явы пры адборы каманды і на Гульні, і на першынствы свету. Было ўсё — і сваяцтва, і падказка «зверху», і дзяленне трэнерамі спартсменаў на «пажаданых» і «непажаданых». Многіх раней тэрміну запісвалі ў «старыя». А поспех маладых лічылі іншы раз выпадковым. Калі б такая практыка адбору працягвалася і напярэдадні XXIV Гульняў, то мы, напэўна, не ўбачылі б у камандзе і Уладзіміра Сальнікава, і нават можа нашага Аляксандра Раманькова, той жа Таццяны Лядоўскай... І не дабралі б пэўнай колькасці ўзнагарод.

На гэты раз усё было інакш. Да кожнай кандыдатуры падыходзілі толькі з чыста спартыўнай меркай, у разлік ішло спартыўнае майстэрства, высокія вынікі. Дарогу рашуча закрывалі тым, хто хацеў бы паехаць на Алімпіяду турыстам. Як прыклад, на чэмпіянаце краіны ў бегу на 5 і 10 тысяч метраў нашы лёгкаатлеты не парадавалі высокімі вынікамі. І вось рашэнне строгае, але справядлівае: нават чэмпіёны на гэтых дыстанцыях пазбаўляліся права стаць алімпійцамі.

*— Поспеху нашых спартсменаў садзейнічала напружаная, карпатлівая работа трэнераў. Каго б вы, Валянцін Пятровіч, адзначылі асабліва?*

— Трэнерская работа вельмі цяжкая і складаная. Часам патрабуецца не адзін год, каб падрыхтаваць чэмпіёна, тым больш — алімпійскага. Добрыя словы хацеў бы сказаць у адрас кожнага беларускага трэнера, выхаванцы якога сталі пераможцамі ці прызёрамі Гульняў у Сеуле.

Вазьміце, напрыклад, настаўніка гандбольнай каманды мінскага СКА Спартака Міпановіча. На адным з чэмпіянатаў свету зборная СССР па гандболу выступіла няўдала. Было прынята рашэнне аб расфарміраванні каманды. А стварыць новую даручаюць аднаму з трэнераў — Спартаку Міпановічу. Да Алімпіяды заставалася зусім мала часу. Але трэнерскі састаў, у якім галоўную ролю іграе Спартак Міпановіч, справіўляецца з гэтай цяжкай задачай. Зборная Савецкага Саюза заваявала званне чэмпіёна Алімпійскіх гульняў.

Не менш цяжка, чым Міпановічу, было віцябчаніну Валерыю Кандрацёнку. У яго выхаванца, баксёра Вячаслава Яноўскага, сталы для гэтага віду спорту ўзрост. Адзінае паражэнне на якім-небудзь спаборніцтве можа закрыць дарогу на Алімпіяду. І трэнер не шкадуе сіл, каб пастаянна трымаць свайго вучня, як кажуць, у баявой форме. Старанне трэнера, памножанае на настойлівасць і майстэрства вучня, прыносіць плён: Вячаслаў Яноўскі адзіны савецкі баксёр, які заваяваў залаты медаль у Сеуле.



**Двухразовыя чэмпіёны Алімпіяды Віктар РАНЕЙСКІ і Мікалай ЖУРАЎСКІ.**



**Фінальны матч гандбалістаў СССР і Паўднёвай Карэі.**

*— Магчыма, і ў асобных трэнераў былі нейкія памылкі: знізілі патрабавальнасць да спартсменаў, не ў поўную моц праводзілі падрыхтоўку да адказных стартаў?..*

— Гэта як выключэнне. Вазьміце нашых баскетбалістак. За зборную краіны тут выступалі мінчанкі Галіна Савіцкая і Ірына Сумнікава. Трэнеры, я ўпэўнены, нават у сне, як кажуць, бачылі нашу каманду чэмпіёнам. У нейкі момант знізілі патрабавальнасць, нешта недапрацавалі. У выніку, баскетбалісткі толькі трэція.

Былі зрывы больш у саміх спартсменаў. І на сёння, я лічу, што беларускія спартсмены Анжэла Стасюлевіч і Аляксандр Партноў адны з мацнейшых у свеце па скачках у ваду. Маюць і ўмовы для трэніровак, і вопытных трэнераў. Але знізілі патрабавальнасць да сябе, не праявілі сілы волі і засталіся па-за прызёрамі ў Сеуле. Што ж, няхай гэтыя спаборніцтвы стануць ім добрай навукай на ўсё жыццё.

*— XXIV летнія Алімпійскія гульні сталі ўжо гісторыяй. Якія праблемы яны паставілі перад савецкім спортам? Напэўна ж, вы думаеце цяпер не толькі аб перамогах?*

— Мы былі б кепскімі арганізатарамі спорту, каб толькі хваліліся сваімі поспехамі, каб, як кажуць, спачывалі на лаўрах. Сапраўды, зроблена нямала. Нас не можа не радаваць, што не толькі заваявана агульнакамандная перамога на Алімпіядзе, што вырас аўтарытэт савецкага спорту, але вырас і палітычны прэстыж нашай краіны. Прыгадайце, як насцярожана ўспрымалі ў Сеуле ў першыя дні выступленні савецкіх спартсменаў. І як потым «хварэлі» за нас.

Што тычыцца праблем у чыста спартыўным плане, то Алімпіяда высвеціла іх нямала.

Так, ізноў выйшлі на першае месца нашы штангісты, валейбалісткі. Безагаворачна сталі лідэрамі савецкія гімнасткі...

Толькі чаму здалі пазіцыі коннікі, гандбалісткі, веласіпедысты... Не буду браць праблемы саюзнага маштабу. Старты ў Сеуле прымусілі і нас, адказных работнікаў, спецыялістаў, трэнераў Беларусі зусім па-іншаму паглядзець на развіццё спорту ў рэспубліцы. Хіба ж мы можам мірыцца, што ў зборнай алімпійскай краіны на сённяшні дзень няма ніводнага конніка ці гімнаста, футбаліста ці баскетбаліста... Адным словам, і ў нас ёсць над чым працаваць...

*— ...і ёсць умовы — спартыўныя пляцоўкі, вопытныя трэнеры, каб яшчэ больш высока падняць прэстыж айчыннага спорту. Каб не менш паспяхова выступіць на Алімпіядзе праз чатыры гады?..*

— На гэта мы не пашкадуем ні сваіх сіл, ні сродкаў. І на падрыхтоўку новых алімпійскіх чэмпіёнаў, і на развіццё фізкультуры і спорту для кожнага жыхара рэспублікі.

**Гутарку вёў Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## ГУМАР

*Прыбеглі людзі на пажар. Бачаць: стаіць стары каля гумна рукі ў бокі. Гумно гарыць — ужо і страха абурылася.*

*Крычаць мужыкі:*

*— Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.*

*— Ага. Але ж тут і мышэй ляснула...*

*Старэнькі селянін, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:*

*— Ці тут прадаюцца хамуты?*

*— Не, стары,— адказваюць яму два франты,— тут прадаюцца толькі дурні.*

*— Бач! — круціць галавою, дзівіцца стары. — Відаць, торг ідзе добра, калі толькі два і засталося.*

*Да следчага прывялі двух злодзеяў.*

*— Дзе ты жывеш? — пытае ў аднаго з іх следчы.*

*— Пад мостам.*

*— А ты? — пытае другога.*

*— А я ў яго на кватэры.*

*Выкладчык пытае ў студэнткі:*

*— Як будзе будучы час ад дзеяслова «кахаю»?*

*— Выйду замуж,—не разгубілася тая.*

*— Як табе падабаецца мая новая сукенка?*

*— Любата! Твая швачка так шые, што і на калодзе добра ляжыць.*

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1446